# У З Д Ы М

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ НА ВЫГНАНЬНІ**

M. Kobiako, 4234 Mapledale Ave . Cleveland 9, Ohio



Год II ЧЫРВЕНЬ-- ЛІПЕНЬ 1964 №.5

## ТЫДЗЕНЬ ПАДНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Пяць гадоў таму назад, дня 17-га ліпеня 1959 году, Кангрэс З.Г.А. прыняў пастанову /§73 раз. 212/ Тыдня Паднявoленых Народаў. Згодна гэтае пастановы прэзыдэнту належыцца кожны год у трэйцім тыдні ліпеня выдаваць праклямацыю, і то аж да таго часу, аж пакуль усе падняволеныя народы ў сьвеце, не здабудуць сабе незалежнасьць і свабоду.

Гэтая праклямацыя мае вялікае значаньне таму, што яна прыпамінае вольнаму сьвету горкую долю нашага беларускага народу ды вучыць вялікай праўдзе, што толькі тады будзе забясьпечана для ўсіх свабода, калі народы сьвету асягнуць аснаўныя чатэры пункты свабоды: свабоду рэлігіі, свабоду слова, свабоду ад страху перад тэрорам ды свабоду ад прыгнетальнікаў.

Справа вызваленьня паднявoленых народаў ёсьць асноўною тэзаю для ўстанаўленьня трывалага супакою ў сьвеце, а гэта ўжо супярэчыць камуністычным мэтам да апанаваньня ўсяго сьвету пад маскоўскаю дыктатарскаю ўладаю. Таму справа паднявoленых народаў усьцяж парушаецца ў вольным сьвеце і ладжаныя ўрачыстасьці "Тыдня паднявoленых народаў" моцна нэрвуюць Хрушчова, а таму ён ужо ня раз дамагаўся ад Амэрыканскага Кангрэсу аб адмене пастановы Кангрэсу аб "Тыдні паднявoленых народаў"

Але сам "Тыдзень паднявoленых народаў" яшчэ ня ёсьць тым ключом да адкрыцьця дзьвярэй турмы народаў да свабоды беларускаму і іншым народам за жалезнаю завесаю. Ёсьць шмат іншых спосабаў каб памагчы сваім братом здабыць волю за якою яны сумуюць, ды чакаюць на нашу падмогу. Яны чакаюць на нашу помач, як адзіную надзею на паляпшэньне іхняе долі. Як у "Тыдні Паняволеных Народаў", гэтак і кожны дзень, наша сумленьне павінна клікаць нас, павінна будзіць нас ды дамагацца, каб мы ўсе разам, усімі нашымі духоўвымі і матарыяльнымі сьродкамі, спрычыніліся да правідловага паінфармаваньня чужынцаў пра сучаснае важнае становішча Беларусі ды праз уплывы на міжнародныя арганізацыі або на ўрады паадзінокіх дзяржаў, каб ідэалы свабоды і вызваленьня ў Аб"еднаных Нацыяў дэбатаваліся і былі прыменены да паняволенай Масквою Беларусі.

У нашым эміграцыйным жыцьці, пры нашай занедбайласьці і недасягненьнях, пры нашай збыяковасьці да холаду і голаду, да няволі нашых братоў на Бацькаўшчыне, пры нашаму самалюбстве і скупасьці на грамадзкія патрэбы, пры адсутнасьці гэтак патрэбнае нам згоды ў палітычным, грамадзкім і рэлігійным жыцьці, мы часта забываемся аб сваім абавязку ім дапамагаць.

Таму нам тут у Амэрыцы неабходна павялічыць і ўзмоцніць сваю

дзейнасьць.ведаю,адвагаю і становучасьцю,а не плаксівымі праявамі і словамі. Для нас,жывучых у вольных краінах ды пазнаўшы іхні дзяржаўны лад,ведаючы часткова гісторыю і гераізм гэтых народаў у змаганьні за здабыцьцё незалежнасьці,ды чуючы праз радыёперадачы,даведвачся з прэсы аб змаганьні і вызваленьні ў сучаснасьці шматлікіх каляровых народаў ды ўдзел іхні у нарадах нароўні з іншымі вялікімі народамі, ёсьць зразумелым,што да вызваленьня патрэбна сіла волі і духа,што набываецца праз веду,ўзгадаваньне і працу.

Ня маям права забывацца і пра тых,што ў няволі далёка ад родных, ад сяброў,забытыя сьветам у роспачы бьюцца аб грозныя турэмныя жалезныя краты.Ня можам забывацца і пра тых, што паміраюць ад рукі катаў, у далёкай краіне на ссылках.

Трэба ўспомніць ганебным словам і пра нашых янучараў,што прадалі сваё нацыянальнае сумленьне за міску сачывіцы,за ўласны дабрабыт, ды ўсхваляюць цяпер нам "савецкі рай",які ёсьць пеклам на зямлі ды заклікаюць нас туды.

Нясём помсту нашым бязбожным прыгнятальнікам,якія зьнішчылі наш край,нашу Царкву і найлепшых сыноў нашага народа.

Не даймася ўпасьці ў сьляпы матарыялізм,недавер адзін да адна( да чаго імкнуцца нашыя ворагі,разьбіваючы нас і нашыя арганізацыі ды ўсялякія праявы нашае кансалідацыі каб заміж дзейнасьці мы сталіся нявольнікамі абыяковасьці,апаласьці і самалюбства.

Мыж не на тое радзіліся,каб бачыць загладу і руіны свайго народу на Бацькаўшчыне? Ціж мы прыйшлі на эміграцыю толькі дзеля таго каб сварыцца,дзяліць нялічныя нашыя арганізацыі ды займацца толькі выбарамі новых упраў?

Ці на тое народы сьвету,а ў тым ліку і наш беларускі,пралівалі сваю кроў у абедзьвіх сусьветных войнах каб цяпер быць сьветкамі страшнага паднявоненьня пад камуністычным ярмом? Ці Сусьветная арганізацыя Аб"еднаньне Нацыянальнасьцяў існуе толькі па тое,каб талераваць мільёны людзкіх душ?

Ці можам быць абыяковымі,бачачы жахлівае становішча нашае Бацькаўшчыны якую мы змушаны былі пакінуць? Мыж ведаем гераічнае змаганьне нашага народу на працягу ўсяе свае гісторыі і зьяўляемся сьветкамі і ўдзельнікамі апошніх двух крывавых войнаў.

А таму няхай Тыдзень Паднявоненых Народаў ды доўгатрывалая няволя нашых братоў,сясьцёр,родных і знаёмых,жывучых за жалезнаю завесаю,разбудзіць нашае сумленьне ,а іхняя бязмоўнасьць/бо вусны іхнія закрямбованы/ і цярпеньні няхай голасна прамовяць да нашага сумленьня,каб мы ўсе не забыліся пра іхнюю няволю,голад,холад і патрэбы.

o

## АБ МАРАЛЬНАСЬЦІ

Губэрнатар штату Мічыган Ромпэй асьветчыў,што: "Найбольшаю загрозаю для Злучаных Штатаў Амэрыкі зьяўляецца не толькі камунізм,не атомная зброя,але ўпадак рэлігійнае маральнасьці ў сямейным жыцьці якое знаходзіцца пад загрозаю зьнешчэньня праз немаральнасьць і недгляд за дзецьмі.

Захапленьне грамадзянства камфортамі і прыемнасьцямі ня толькі разбурвае рэлігійнае перакананьне і веду,але спрычыняецца,што некаторыя рэлігійныя арганізацыі становяцца больш сьвецкімі як рэлігійнымі,а тэтым самым падкопваюць асновы грамадзкасьці.Дзеля гэтага губляем пашану ня толькі да свае сям'і,але ня можам быць шанаваным ў хатнім і грамадзкім жыцьці".

"Сьвяты" Я З А Ф А Т. /Прпцяг № 4/

У папярэднім нумары "Уздыму" пісалася аб выкананьні прысуду над жыхарамі места Віцебска,западозраных ў забойстве Язафата Кунцэвіча.Прысуд,згодна просьбы Папы і загаду польскага караля, быў выканан самым нялюдзкім спосабам падобным да сярэднявяковых інквізыцыяў.Апр над люрзьмі прысуду падлягалі і рэчы няжывыя напрыклад: быў сьхінены вячовы звон-сымбал свабоды места Віцебска; была зруйнована Ўсьпенская Царква; паздыманыя ўсе званы з праваслаўных цэркваў былі пераплаўлены,із сплаву выліваліся званы з напісам "Язафат". Усе Праваслаўныя Цэрквы,згодна загаду караля пераказаны для карыстаньня вуніятам, а жыхары сілком заганяліся да вуніі. Гэтак званае "Магдэбурскае права",якое раней было прызнанае для места Віцебска,было загадам караля скасавана..

З гэтага ўсяго асабліва радаваўся тагачасны вунійны Мітрапаліт Іосіф Рутскі,аб чым сьветчыць ягоны ліст да Кардынала Бондіна,з дня ІІ-га лютага І624 году,наступнага зьместу:

"Кардіналу Бондіну,Іосіф,Мітрапаліт Рутскі.
Пасьля такога жорсткага забойства нашага полацкага Архіепіскапа,аб чым я раней падрабязна пісаў Вашай Яснавяльможнасьці,Найясьнейшы наш Кароль,прасякнуты паганаю справаю,каб пазбыцца дзяржаве кары Божай за праліцьцё крыві Архіепіскапа,паслаў да места,якое панасіць віну за той праступак,камісараў.Яны маючы за сабою даволі моцную ахову, якая складалася з кавалерыі і пяхоты - бо баяліся бяды казакоў,да якіх зьвярнулася места за дапамогаю,за тры дні скончылм суд і выканалі яго.

Адсечаны голавы двум мейскім заслугоўваючым павагі грамадзянам ды разам зь імі І8 другім грамадзянам,а іхняя маемасьць сканфіскаваная.

Каля ста другіх грамадзянаў ,якія паразьбегаліся ў розныя бакі перад прыбыцьцём камісараў,засуджана на сьмерць завочна,а іхняя маемасьць гэтак сама сканфіскаваная.

Адабраныя прывілеі,якія былі прызначаны гэтаму гораду польскімі каралямі; на вачох усіх зьнішчаны будынак мейскае Рады,па якім больш плакалі,як за грамадзянамі,якім паадсякалі голавы; зьнішчаны дзьве схізматыцкія /г.з. праваслаўныя/сінагогі; іншыя кары пакінуты на волю караля.

Праз гэта ўсё напаў на схізматыкаў/праваслаўных/ вялікі страх і яны пачалі разумець,што калі сэнатары захочуць што нібудзь выканаць па загаду караля,то не стрымаюць іх пагрозы казакамі.

З гэтым залучваю маю найніжэйшую пакорлівасьць Вашай Яснавяльможнасьці"

У Бітэні,ІІ лютага І624 году.

Узята з гісторыі Літаратуры Польскай - Віснеўскага том 7.Пераклад з польскага. Зьмест ліста выразна сьветчыць,што хрысьціянская кроў была для Мітрапаліта Рутскага ўцехаю,а таму каментарыі тут быліб лішнімі.

С Ь В Я Т А С Ь Ц Ь Я З А Ф А Т А

На бачыне І20 кнігі "сьв." Язафат сп. Пануцэвіч піша:"Кароль Жыгімонт з сынам Уладыславам ды Канцлер Лявон Сапега за подпісам вунійных і лацінскіх біскупаў ды вялікай колькасьці магнатаў і шляхты зьвярнуліся І2 лістапада І624 году да Папы Ўрбана 8-га з просьбай абвесьціць Архіепіскапа Полацкага Язафата Кунцэвіча сьвятым ды што,

ў адказ на гэтую просьбу Папа вызначыў адумысловую камісіі,якая праслухаўшы 116 асобаў,сярод якіх былі жыды,пратэстанты,ды ўдзельнікі забойства Язафата. Ціж тут не хлусьня? Адкульжа маглі ўзяцца ўдзельнікі забойства,калі адны былі пакараны сьмерцю,а другія паўцякалі? З вымененых сьветкаў згодна дапушчэньньня самога аўтара ні адзін не сцьвердзіў аб нейкіх прыпісаных цудах Язафата і таму Кангрэгацыя Абраду, прызнала недастатковасьць фактаў сьвятасьці Язафата/сьв. Язафат бач. 124/,а дзеля гэтага справа была адложана і праз даўжэйшы час зусім пра Язафата забыліся. А гэта таму,што палякі цікавіліся Язафатам толькі пакуль ён жыў і для іх працаваў,а пасьля сьмерці забыліся як непатрэбнага. Непатрэбным жа ён быў таму,што вунія мелася быць толькі як бы пераходным мосьцікам па якому пераводзіліся праваслаўныя да касьцёла лацінскага абраду.У тым жа часе бальшыня праваслаўных была ўжо сілком загнана да вуніі,а таму , і акцыя гэтая была непатрэбнаю,дык пашто было ўспамінаць пра Язафата?

Справа была зусім выразнаю і зразумелаю,бо калі раней за пасярэдніцтвам Язафата і яму падобных прымусам заганяліся, дык цяпер палякі і каталіцкія духоўнікі распачалі нават прасьледаваць і вуніятаў,каб як найхутчэй зрабіць іх рыма-каталікамі. Аб гэтым выразна сьветчаць думкі тагачасных польскіх чыннікаў словы якога тут цытуем: "думаю,што русінаў/г.з.Беларусаў і Украінцаў/ трэба вынішчаць ;бо як калісьці Рым здабыў славу вынішчыўшы Карфагэн,гэтак і палякі здабудуць славу вынішчыўшы Русінаў".Ю.Зімаровіч.

## КАЛІ ІЗНОЎ ЯЗАФАТ СТАЎСЯ ПАТРЭБНЫМ ?

Пасьля пардзелу Польшчы паміж Расеяю,Нямеччынай і Аўстра-Вугоршчынай,на абшарах акупаваных расейцамі царскім урадам вунія была зьнішчана гэткім самым спосабам,як была раней ўведзена палякамі г.з. прымусам.Але на абшарах акупаваных Аўста-Вугоршчынай,дзе пераважала ўкраінскае насельніцтва,была рэлігійная таляранцыя і магчымасьць праводжаньня рэлігійнае і нацыянальнае працы,а таму і было дагаворана з Рымам каб той куточак з вуніійным украінскім насельніцтвам,стаўся мейсцам для пашырэньня вуніі на ўсход,а таму і спахваціліся ізноў за Кунцэвіча.З гэтаю мэтаю ў 1902 годзе /за 297г./пасьля сьмерці Язафата,раптам зьявілася першая кніжыца " на украінскай мове"Жыцьцё Сьвяшчэннамучэніка Язафата Кунцэвіча" У гэтяй невялікай кніжацы ўсяго/100 бач./ гаварылася:"Язафат сьвяты з сьвятых;польскі кароль памочнік сьвятога; палякі наагул добрыя людзі; Язафата бароняць жыды і пратэстанты,толькі адны праваслаўныя страшныя безбожнікі,дзікуны закамянелыя.Казакі гэтак сама бунтаўнікі,калі прымаюць грэцкага Патрыярха.А Патрыярх шпіён".

Згодна гэтае кніжачкі Язафат залічваўся за рускага сьвятога. Але з адраджэньнем Польшчы пасьля першае сусьветнае вайны,палякі забралі вунійную царкву пад сваю кантролю і ўжо ў 1919 годзе зьявілася ў ангельскай мове навінка з Рыму наступнага зьместу: "новы Кардынал прыгатаўляе вялікую ўрачыстасьць,якая палягала на тым,што зьехаліся да Варшавы два Кардыналы,2 Архіепіскапы і прагаласілі Язафата польскім сьвятым,а Папа сцьвердзіў гэта сваёю буляю 20 сьнежня 1923 г."Адсюль выснаў,што нават згодна прызнаньня Папаю Язафат нямая нічога супольнага з беларусамі ані па паходжаньню,ані сьвятасьцю, накіданьнем яго сьвятасьці беларусам заняўся ўпершыню сучасны бікуп Сіповіч,выстаўляючы ў сваёй капліцы ў Лёндане ягоны вобраз,а пазьней, няведама зь якіх прычынаў,спахваціўся Пануцэвіч у Чыкаго.Праваслаўныя аднак лічаць ,што гэта ёсьць мыльны пухір,а прапаганда аб сьвятасьці Язафата раўназначная будаваньню касьцёла ў паветры.

/Працяг будзе/

# ДУМКІ НА БЕЛАРУСКІЯ ТЭМЫ.

Ня лёгкую долю перажываюць Беларусы ці гэта на Бацькаўшчыне,ці на эміграцыі.Цяжкасьці часткова выплываюць і з мінулага нашага народу,які перажыўшы свой уздым-занепаў і ня можа ўзмацавацца на правідловым шляху свайго адраджэньня праз рэлігійны і грамадзкі падзел. Разглядаючы падзеі з нашага эміграцыйнага жыцьця часам трудна зразумець адкуль прычына ўсім гэтых закалотаў і падзелаў?Здавалася б,што знайшоўшыся паміж чужынцаў - наша любоў да саўбрата беларускага паходжаньня павінна быць выняткова чулаю і што мы,гаворачы яшчэ сваёю мовою дагаворымся ўва ўсіх нашых вясёлых і сумных пытаньнях,ды што Беларус для Беларуса будзе заўсёды добрым дарадцам і памочнікам у кожнай патрэбе ды то ня толькі ў асабістых справах,але і ў грамадзкіх,палітычных,у нацыянальным і палітычным жыцьці.Але вось маям усё наадварот.."Нас падзялілі ...Хто ?Чужаніцы,чорных дарог махляры"..
А як надыйшоў гэты падзел - можа кожны даведацца.

А можа мы памыляемся?Заміж сябе вінаваціць звальвем усю віну на чужынцаў? Трэба назваць іх па імені.Ня ўсеж чужынцы злыя,а ёсьць і добрыя,якія беінтэрасоўна ўратавалі нам жыцьцё і дапамаглі нам выехаць на эміграцыю,дзе мы ізноў сварымся за нейкія "фонды"вунійнае агентуры ці яшчэ якой іншай.Штож маюць тады сказаць Палякі,якім гэтак сама зроблена вялікая крыўда бо здраджаны іхнія саюзныя дамоўнасьці, але яны адчуваючы сваю крыўду не хочуць спачуваць іншым,а ўсцяж пратандуюць на нашыя землі.Расейскія эмігранты гэтак сама знаходзяцца нараўне з іншымі выгнанцамі аднак ідэя манархістычнага строя не выветрала яшчэ ў з галавы ў адных ды і з другімі дагаварыцца не магчыма,бо на першы плян"Непрэдрашэнства" высоўваюць.Мыж церпім і праз тое,што не жывём сваімі справамі і не глядзім ў будучыню,як ў сучаснасьці ўсё больш пашыраецца няволя на ўсе народы сьвету дыААН і НАТО не знаходзяць на гэта рады.

Разглядаючы справы нашых суседзяў - знаходзім прычыну нашага няшчасьця.Наша Бацькаўшчына ляжыць паміж усходам і захадам,а антаганізм нашых суседзяў зьнішчыў нашу дзяржаўнасьць,пасяліў у нашых душах сваю ненавісьць,зрабіў нас нявольнікамі свайго думаньня,што адзін акупант лепшы,а другі горшы,што захадняя культура лепшая за ўсходнюю,што на Беларусі няма багацьцяў, што няма інцыятывы,а таму народ ня можа жыць самастойна...
Што ў гэтым ёсьць маленькая доза праўды сьветчаць факты ўкраінскае гісторыі,у якіх тое самае адбываецца што і ў нас,толькі ў шырэйшым памеры і больш трагічна.У іх гэтак сама ёсьць вуніяты,якія хацеліб каб ўсе сталіся вуніятамі,- іншыя зноў трымаюцца"адзінае недзялімай".Адзін з украінскіх патрыётаў адказваючы адным і другім гэтак выказаўся:"Былі і ёсьць з пасярод украінскага грамадзянства /ведама і беларускага/ зьявішча як ў мінулым,так і цяпер,якія балюча мсьцяцца на ўкраінскім народзе.За прыклад можна ўзяць,што ўкраінцы і беларусыумелі і умеюць больш служыць чужым інтарэсам як сваім.Будавалі калісьці польскую дзяржаву.Маскоўскім царом памагалі будаваць Імпэрыю.Найвярнейшымі гвардзістамі былі пры іхнім баку.Аўстыяцкім цэсарам служылі...Сталінаўскую імпэрыю стаханаўскай працай узмацнялі...Рымскай курыі верна падаткі плацілі...Цяпер заклікаюць у чужую няволю,заміж будаваць сваю дзяржаву і Царкву,каб яны самастойнымі былі..."

Гэта праўда,але ня ўсе гэтую праўду разумеюць,бо ёсьць на сьвеце фанатыкі,здраднікі,прадажнікі непрадрашэнцы,самахваля""АЛЕ,Я ЗНА

———о——— –

## РАДА БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Згодна атрыманых рэдакцыяй "Уздыму" афіцыяльных інфармацыяў, пад назовам "Рада Беларускай Рэспублікі",паўстала на эміграцыі новая Беларуская палітычна-рэпрэзэнтацыйная арганізацыя.

Сучасны склад Рады Беларускай Рэспублікі /РБР/ пакуль што не падаецца да агульнага ведама,да часу Агульнага Зьезду сяброў і сымпатыкаў гэтае арганізацыі,на якім будзе апублікаваная палітычная плятформа дзеяньня і абвешчана пераняцьцё кіраўніцтва Беларускага Нацыянальна-вызвольнага Руху ад самазьліквідаваных Радаў Беларускай Народнай Рэспублікі /БНР/ і Беларускай Цэнтральнай Рады /БЦР/.

З мамэнту распачацьця актыўнае дзейнасьці,як назоў,гэтак і нутраная структура будуць перагледжаны на першым Зьездзе Сяброў Рады, на якім і ўмеру патрэбы будуць уведзены зьмены ў залежнасьці ад тагачасных палітычных абставінаў.

Аснаўною мэтаю РБР ёсьць: а/дапамога беларускаму народу ў вызваленьні з пад расейска-камуністычнай няволі; б/маральная і матарыяльная дапамога ў адбудове Незалежнага Беларускага Гаспадарства; в/імкненьне з"адзіночыць разедненую чужацкімі агэтурамі бел. эміграцыю; г/ стварыць адзінае нацыянальна-рэпрэзэнтацыйнае прадстаўніцтва д/дбаць аб узгадаваньні маладога пакаленьня на эміграцыі ў нацыянальным і патрыятычным напрамку; е/ браць актыўны ўдзел ува ўсіх галінах беларускага грамадзка-палітычнага жыцьця.

Рада Беларускай Рэспублікі ўважае,што Першы Ўсебеларускі Кангрэс,Актам 25-га Сакавіка абвешчаньне Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі; тагачасная Рада БНР, а гэтак сама Другі Ўсебеларускі Кангрэс і Беларуская Цэнтральная Рада адыгралі гістарычную ролю ў вызвольным руху, у адбудове беларускай дзяржаўнасьці,гэтак і ў абароне беларускага народу. Гэтыя былыя дзяржаўныя ворганы абодвых пэрыядаў,створаныя ўздымам волі беларускага народу,павінны разглядацца ў гістарычным аспекце з належнай пашанай.

Аднаўленьне дзейнасьці ад імя Рады БНР і прадаўжэньне дзейнасьці Беларускаю Цэнтральнаю Радаю на эміграцыі не змаглі асягнуць належнае мэты,бо як"лідэры"гэтых Радаў,гэтак і іхнія найбліжэйшыя супрацоўнікі так заблыталіся ў нутраных і вонкавых махінацыях,што страцілі ня толькі ўсякі давер сярод беларускага грамадзянства,але ўжо нічога супольнага ня маюць з тымі гістрычнымі дзяржаўнага характару ворганамі.

Рада Беларускай Рэспублікі будзе выкарыстоўваць усе способы і ўводзіць новыя мэтады дзеяньня,магчымыя для праводжаньня ў Вольным Сьвеце дзеля зьдзейсьненя мэтаў і хутчэйшага выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў чаго даўно чакая беларуская эміграцыя.

Усім жадаючым карэспандавацць з вышэй выменай установай РБР, просім карэспандэнцыю накіроўваць на адрыс Уздыму. Пісаць просім у закрытым канверце з далучэньнем паштовае маркі.

==========0=========

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ЖАЎНЕРА.

Дня 4 і 5 ліпеня 1964 г.,пасьля дваццаці гадоў абвешчаньня Прэзыдэнтам БЦР /6 сакавіка 1944г./ мабілізацыі ў Беларускую Краёвую Абарону,беларускімі вайскоўцамі была адзначана гэтая важная падзея на Рэсорце "Бэлляр Менск".

Яшчэ 23 лютага г.г., на прапанову ген. Ф. Кушаля,Агульны Сход Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку прыняў пастанову адзначыць 20-ці годзьдзе паўстаньне БКА супольна з вэтаранамі на Рэсорце Бэляір "Менск".Новая Ўправа ЗБВ пад кіраўніцтвам сп. Мерляка распачала працу для выкананьня гэтае пастановы.Навязаўшы кантакт з вэтэранамі БКК,на супольным паседжаньні,дзе быў прысутным і ген. Кушаль,быў створаны адумысловы камітэт Вэтэранаў. на правядзеньне сьвяткаваньня. На гэтымжа пашыраным паседжаньні была прынята і пастанова адзначаць угодкі БКА як "ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ЖАЎНЕРА",а то дзеля таго каб злучыць усіх вайскоўцаў,якія ў часе Другое Сусьветнае вайны змагаліся ня тольківбеларускіх фармацыях,але і йншанацыянальных,аў тым ліку і Амэрыканскіх.Тут-жа быў выбраны Камітэт ў наступным складзе: сп.сп. Кастусь Мерляк-Старшыня,Аўген Занкавіч-заступнік,Даніла Клінцэвіч-сакратар, Уладзімер Пілеса-скарбнік.

Падрыхтоўка да ўрачыстасьці была не лёгкаю,бо адны былі супроць сьвяткаваньня разам, другія мелі намер зрабіць з гэтага толькі бэцэраўскую імпрэзу,а трэйція зусім не хацелі адзначаць Дня Беларускаг Жаўнера.Усе гэтыя перашкоды аднак Камітэту ўдалося перамагчы,і гэты Дзень быў адзначаны вельмі ўрачыста з удзелам больш чатырохсот асоб.

Ужо за колькі дзён перад Зьездам пачалі зьяжджацца на Рэсорт былыя вайскавікі.Прыяжжалі з блізкіх мясьцінаў як:Нью Ерк,Нью Брунсвік, Соўт-Рівэр,Пассэйк,Стамфорд і з адлеглых:Пэнсыльванія,Массачуссэст, Дэлівэр,Марылянд,Огайо,Мічыган і Іллінос.

4 ліпеня а гадзіне 10 пачалася зборка,якою кіраваў капітан Д. Клінцэвіч.Сфармаваўшы Вэтэранаў каля машту ён злажыў рапарт Маёру Др. Сажычу,а Маёр Сажыч здаў рапорт Прэзыдэнту БЦР праф. Р.Астроўскаму,які загадаў падняць Сьцягі,якія пад мэлёдыю амэрыканскага Гімну і малітвы"Беларусь наша Маці Краіна" былі паднятыя.

Парад прымалі:Прэзыдэнт БЦР праф. Астроўскі, Маёр Сажыч, Ген. Дзямідаў і ген. Падглажнік.

А гадзіне 12-тай распачалася акадэмія,якую адкрыў і кіраваў старшыня К-ту сп. Мерляк.Адрэкамандаваўшы старшыню Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў імя К. Езавітава сп. Гасьцеева з Кліўленду,старшыня прачытаў Мабілізацыйны загад БКА. Прывітаньне ад Галоўнакамандуючага БКА Кушаля злажыў Маёр Сажыч. Зьмястоўны і даўгі рэфарат аб падрыхтоўцы, правядзеньне мабілізацыі і змаганьні-прачытаў сп. Мэрляк. Пасьля рэфарату Прэзыдэнт БЦР праф. Астроўскі прааналізаваў палітычныя і вайсковыя падзеі ў часе арганізацыі БКА. Зьмест прысягі БКА прачытаў сп. Мядзейка.Акадэмія закончылася прачытаньнем надасланых прывітаньняў і адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну.

Пасьля акадэміі ўсе прысутныя перайшлі ў другі будынак,дзе быў прыгатаваны супольны абед. На абедзе прысутнічаў Высокапрэасьвяшчэннейшы Архіепіскап Васілі,протодыякан Обрэмскі,старшыня Царкоўнае Рады сп. Казьлякроўскі і дырэгэнт хору сп. Каптуровіч з жонкаю.

Гаспадаром на Абедзе-банкеце быў заступнік старшыні лейтэнант А.Занкавіч.З прынагоднымі прамовамі выступалі:ген. Дзямідаў, Е.Кіпель,сп. Мядзейка,а. М.Лапіцкі,маёр Сажыч,старшыня К-ту Мерляк. Банкет праходзіў ў мілай сяброўскім настроі пераплятаны беларускімі вайсковымі песьнямі.

Наступна адбылася нарада актыву былых вайскавікоў на якой даручана Беларуска-Амэрыканскаму К-ту Вэтэранаў дааканплтаваць яшчэ некалькі сяброў і навязаць лучнасьць з актыўнымі вайскавікамі іншых мясцовасцяў дзеля падрыхтаваньня Зьезду Вэтэранаў і выбару дзейнага кіраўніцтва Вэтэранаў ў Амэрыцы.

У нядзелю 5 ліпеня сьв. Літургію і Паніхіду па загінуўшых жаўнерах адправіў Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіепіскап Васілі ў сасдужэньні духавенства.Зьмястоўная і прыгожая проповедзь Уладыкі ўзрушыла ўсім змагароў і прысутных і расчуліла да сьлёз.Рэлігійным гімнам "Магутны Божа"урачыстасьці "Дня Беларускага Жаўнера "былі закончаны.Трэба спадзявацца,што ў будучыне гэты дзень,які спалучаны з датаю абвешчаньня мабілізацыі БКА будзе адзначацца як дзень Беларускіх Герояў супольна з датай Слуцкага Паўстаньня.Гэта будзе залежаць ад Вэтэранаў БКА і ўсіх беларускіх бышых збройных адзінак. А галоўнак мэтаю арганізацыі Вэтэранаў БКА,БККі ўсіх былых змагароў аб"еднаць ўсіх беларускіх былых вайскоўцаў ,што можа прысьпешыць грамадзка-палітычнае задзіночаньне.

Прысутны Вэтэран.

=============0===========

## УРАЖАНЬНІ З РЭСОРТУ "МЕНСК"

Менск,самы назоў крэнае душу кожнага беларуса,зблiжаючыся да гэтага чароўнага места. Менск на Бацькаўшчыне-гэта сталіца Беларусі. Менск на эміграцыі ў ЗША,месца сустрэчы беларусаў,бяз розьніцы хто якіх паглядаў. Тут выглаждваюцца каструбы спрэчкаў нарослых гадамі на эміграцыі.Тут моладзь раскашуецца жартуе,сьмяецца на лоне прыроды, у плывальным басэйне,або на разлеглым возеры на лодках. Усюды для моладзі і ўсіх раскоша.Каб збыйсьці ўвесь рэсорт патрэбна каля пару гадзінаў часу.Трэба прабірацца праз гушчары лесу,дзе можна знайсьці нейкія руіны будынкаў на палянках,а сярод лесу,які расьце ў натуральным стане пабачыш чароўнае возера.І тут на вусны ціснуцца словы:слава тым,што спрычыніліся на набыцьця гэтага селішча.

А якіж выглад можа набыць яшчэ "Менск"калі на закупленых тут дзялках будуць пабудаваныя дамы навакол якіх закрасуюць чароўныя беларускія кветкі,а паміж кварталамі дамоў асфальтовыя вуліцы.Краса рэсорту "Менск"будзе неапісэная.

## З ь е з д В э т э р а н а ў.

Дзень 4 ліпеня яшчэ больш дадаў красы гэтай мясьціне.Неспадзявана сюды зьехалася столькі людзей,што некаторым з нястачы кватэраў прышлося спаць у сваіх самаходах. Кожны,хто прыязджаў стараўся як найхутчэй накіравацца на пляц перад адміністрацыйным будынкам,каб там пабачыцца з знаёмымі,зь якімі не спатыкаўся на працягу дваццаці гадоў.Радасьцю вялікаю былі перапоўнены спатканьні сяброў па зброі.Успамінам ня было канца да позьняе ночы.Адным цягам чуліся словы:"памятаеш як пяшком перамервалі з канца ў канец Слонімскую, Гродзенскую акругу змагаючыся з чырвонымі бандамі"..."памятаеш трынаццаты батальён","памятаеш што рабілася на Віцебшчыне,,як маскалі замінавалі нам дарогу".."памятаеш тую праклятую гару Монтэ Касыно,дзе покатам лягло некалькі тысяч нашых беларусаў". Так ,браце,гэта ўспамін аб цярністым шляху беларускага жаўнера.Сэрца крывавіцца нязгоянай ранай па тых, што аддалі жыцьцё пад курганам герояў на Бацькаўшчыне і на ўсіх фронтах Другое Сусьветнае вайны. Калі аслабеўшая рука выпушчала наш сьцяг ў тую хвіліну дрэўка зацiскалі моцныя пальцы сябры абы толькі белчырвона -белы сьцяг шугаў далей.

Нас ацалелых у сусьветнай бойні,падзяліла людзкая злосьць,ці іначай кажучы груповыя непаразумленьні.А яшчэж здаецца нядаўна было, калі бралі з аднае скрынкі патроны,кожны прысягаў за жыцьцё свайго сябры. Прысягаў і дрыжэў у нянэнасьці за лёс супольнай,адзінай Маці Беларусі.

Ахвяры палеглых братоў,герагічныя змаганьні,дні суму і радасьці дні няўдачаў і перамогаў,дні ўпадку і славы,хутка задзіночылі зьехаўшыхся Вэтэранаў.Чулася на кожным кроку сказы: хопіць ужо нам быць падзеленымі на розныя групоўкі,хопіць спрачацца за нішто.Злучваймася ў вадну арганізацыю Вэтэранаў! Гляньма як час хутка прабег,а зусім мы мала чаго дакаалі на выгнаньні!

## У р а ч ы с т а е п а д н я ц ь ц ё сьцягоў і парад.

4-га ліпеня Вялікі Дзень Незалежнасьці З.Ш.А. і Вялікі Дзень у Беларускіх Вэтэранаў.Усё ідзе спраўна па ўложанай праграме.На стале гара вэтэранскіх шапак хутка раскуплівaецца,бо кожны цісьнецца набыць гэтую вайсковую адзнаку.Радыё-гласьнік кліча станавіцца ў шэрэгі.Пры сьцяжным машце стаяць ўжо: капітан поруч сержанта,палкоўнік поруч шэраговага,летэнант з капралям.Вось дзе пашана.Вось дзе братства адзін да другога,братэрства зброі і супольнасьць ідэі вызваленя Бацькаўшчыны.На загад чакаюць сьцяжныя з паласатым бел-чырвоналым сьцягам і вэтэранскім.Глянуўшы на штандар вэтэранаў,зроблены яшчэ ў Нямеччыне,сэрца пачынае біць прысьпешаным рытмам,гледзячы на вышыты нечаю рукою надпіс " За Волю Беларусі за Волю нашай Бацькаўшчыны". Чуецца загад"Сьцягі далучыць да калёны".З гонарам і павагаю выконваецца загад і красуюцца сьцягі Амэрыканскі зправа,Беларускі злева,а за імі пасярэдзіне ў асысце двух вайскавікоў з шаламі праз плечы ў нацыянальным колеры плыве штандар вэтэранаў.Д.Клінцэвічам падаецца каманда "зважай" і здаецца ім рапарт маёру Сажычу які рапартуе праф. Р. Астроўскаму, а прэз. БЦР загадвае падняць сьцягі. І тут ізноў хваля ўспамінаў з мінулага. Гэтыж самы Прэз. Астроўскі дваццаць гадоў таму назад выдаваў загад правесьці мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону для змаганьня супроць маскоўска-камуністычных бандаў,якія грабілі і забівалі беларускае насельніцтва.Пад сьпеў гімнаў Амэрыканскага і Беларускага - сьцягі вольна падняліся і красаваліся на вяршынях маштаў,параўнальна як Амэрыканскі над фортам "Гэнры" каля Балтыморэ ў 1812,калі ангельцы атакоўвалі,і як Беларускі на Катэдральным пляцы ў Менску,калі аддзелы БКА ў 1944 г. складалі прысягу на вернасьць Беларусі. А ў мінуту цішы для ўшанаваньня памяці палеглых сяброў па зброі,не аднаму прыпомніла іхняе аблічча.

## Б а г а с л у ж б ы.

Палявую Багаслужбу адпрэвіў Прат. а. М.Лапіцкі ў саслужэньні а. Я.Кузьміцкага і дыякана С.Каўша. А ў нядзелю 5 ліпеня сьв. Літургію і Паніхіду служыў Уладыка Васілі з Пратадыяканам Абрэмскім.Прысутнічаючы на абедзьвіх Багаслужбах ў глыбі душы адчуваўся боль і хацелася прамовіць:"Эх Дастойныя Айцы, каб Вамі ўладала Хрыстовая навука Вы разам бы служылі стаўшы поруч адзін аднаго і багаслаўлялі б нас змагароў і ўсіх вернікаў тут стаячых не на сваркі,але да згоды.Мы знайшлі супольную мову і разам адзначаем гэтую вялікую і дарагую ім урачыстасьць,а што Вас дзеліць? Мы хочам бачыць тую хвіліну калі Вы скажаце няма ўжо між намі няладаў і спрэчак,а ёсьць пашана і любоў.Вось чаго чакаем ад Вас для дабра Вас самых,для дабра нас Вэтэранаў,для дабра агульна беларускага і дабра шматпакутнае паняволенае нашае Бацькаўшчыны.

## А к а д э м і я

Пасьля палёвае Багаслужбы,вэтэраны парадным маршам,акружною дарогаю вярнуліся да бюра адміністрацыі,дзе ў галоўнай залі распачалася акадэмія.Апрача зьместоўнага рэфэрату і заслугоўваючых павагі пра-

моўцаў галоўная ўвага была зьвернена на інфармацыі праф. Астроўскага аб дэталях і прабегу мабілізацыйнай акцыі БКА. Інфармуючы,былы Прэзыдэнт БЦР для доказу пэказаў некалькі дакумантаў зь якіх было відавочна,што выконвалася ўсё тое што было магчымым знаходзячыся пад акупацыйнаю нямецкаю ўладаю,а галоўнаю перашкода ў арганізацыі БКА была боязьн нямецкім уладаў,каб з БКА не вытварылася вялікая мілітарная беларуская сіла.

праф.Астроўскі

На заканчэньнеж сваіх інфармацыяў асьвечыў,што з увагі на ягоную старасьць /77 гадоў/ ён адыходзіць ад усялякае палітычных і грамадзкіх справаў і просіць яго далей не лічыць Прэзыдэнтам БЦР,а браць у свае рукі інцыятыву і прадаўжаць працу. Словы гэтыя бальшыня прыняла як годныя прызнаньня ў сучаснасьці, а ў шматлікіх паўстала думка і жаданьне каб на гэткі чын адважыўся і Прэз. БНР інж. Абрамчык, што далоб магчымасьць без ніякіх дэбатаў аб"еднацца беларускай эміграцыі і выбраць агульнае прадстаўніцтва.

## Супольны Абед і гутаркі.

Пасьля гадзіннага перапынку ўдзельнікі сьвяткаваньня зышліся на супольны абед.І тут так сама прагалошваліся прамовы і тосты за здароўе ўдзельнікаў і тварцоў Беларускае Краёвае Абароны.Усюды чуюцца амаль тыя самыя захапленьні "добра",весела і добра ўсё адбылося".

Але ёсьць і заўвагі"каб ген. Кушаль быў прысутным,былоб яшчэ лепей. Паўстаюць допыты чаму не прыехаў?Нехта інфармуе,"што генерал паехаў на бал народжаньня свайго сына". Жанчына ў старэйшым веку,якое сын быў у радох БКА і загінуў у абароне свайго народу і Бацькаўшчыны, адказвае,а чаму ён гэтага ня мог зрабіць раней або пазьней,а абавязкава ў гэты дзень калі адзначаем дзень народзінаў БКА.? Ціж вы ўсе стоячыя тут ушапках не прысягалі яму на вернасьць,я ён на вернасьць Бацькаўшчыне? Ціж вы не даручалі лёс свайго жыцьця ў ягоныя рукі? А ён вам сыном-героям ня змок пасьвяціць некалькі гадзін часу, каб хоць ушанаваць памяць тых,якія выбылі з ягоных щэрэгаў? Чуюцца і іншыя жаданьні наступнага зьместу:"Калі ген. Ф.Кушаль у апошнюю хвіліну адмовіўся ўзяць удзел у сьвяткаваньні"Дня Беларускага Жаўнера"матывуючы сваю адмову тым,што як бацька мусіць быць прысутным на адзначаньні народзінаў свайго сына і гэта для яго ёсьць важнейшым,як быць разам з сваімі вайкоцамі якімі ён камандаваў. Ды гэта ўжо ня першы раз калі ген. Кушаль пакідаў сваіх жаўнераў дзеля асабістых мяркаваньняў і нам добра ведама,што ягонай адсутнасьці зусім іншыя прычыны,а таму за гэткі ягоны паступак належыць беларускім вайскоўцам і ўсяму бел.грамадзянству не прызнаваць ягонага генеральскага чыну".

Прыслухоўваючыся да гутарак удалося пачуць яшчэ адно пытаньне.Малады хлапец пытаецца ў старэйшага вэтэрана"скажэце сп. чаму доктар С.Станкевіч не прыехаў ён-жа быў начальнікам акругі на Беларусі і гэтак сама заклікаў каб ішлі ў БКА?"У адказ вэтэран кажа."Бачыш сыну,пасьля таго,што С.Станкевіч правёў падзел на"Інтэлігэнтаў і"простых"і разьбіў аддзел БАЗА ў Нью Ёрку,яму цяпер сорамна глянуць людзям у вочы".

Гэткія і падобныя заўвагі чуліся на ўрачыстасьці і пасьля яе. Кожны мая права судзіць згодна свайго пагляду,але факт ёсьць фактам, што вэтэраны знайшлі супольную мову і ганарова выканалі свой сьвяты абавязак,а гэта ёсьць зарукаю,што неўзабаве паўстане Галоўнае Кіраўніцтва і будзе прадаўжаць працу.А Вы ,Дарагія Сябры,калі не далучыліся да гэтае паважнае арганізацыі,пастарайцеся зрабіць гэта хутчэй бо час плыве.Гляньма,як маланкаю праляцела 20 гадоў нашага жыцьця на эміграцыі і шмат нашых сяброў адыйшло ўжо ў венасьць.Дык не трацьма часу!

. А.Вярэціч.

## ДВА АГУЛЬНЫЯ СХОДЫ Ў НЬЮ ЁРКУ.
### Першы Сход Акруговае Ўправы.

Агульны гадавы сход сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночання на акругу Нью Ёрк, адбыўся 14 чырвеня 1964 году ў залі грамадзкага цэнтру, 401 Атлянтык Авэ Бруклын.

Гэты сход быў склікаты згодна прынятага арганізацыйнага статуту і ўсіх арганізацыйных правілаў БЗА. На сходзе прысутнічала 53 асобы, што ў гісторыі акругі бывае рэдкім зьявішчам.

Уступаючы старшыня сп. Д.Клінцэвіч адкрыў сход і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм сходу. Былі паданыя наступныя кандыдатуры: сп.сп. К. Мерляк, У.Набагез, і М. Гарошка. Абсалютнаю бальшынёю галасоў быў выбраны сп. Мерляк. Пасьля чаго с-ня Зіна Станкевіч парушыла справу "кворум", якая была адложана да выбару прэзыдыюм сходу. На сакратара быў выбраны В. Шчэцька, а на заступніка старшыні сходу сп. А.Шукелайт

Прыступаючы да прыняцьця парадку дня старшыня сходу запрапанаваў разгледзяць справу "кворума", а то для вырашэньня пытаньня с-ні З.Станкевіч. Разглядаючы сьпісак сяброў аказаны сп. Клінцэвічам, аказалася, што на залі прысутнічае толькі адна асоба, што не належыць да "БАЗА", гэта с-ня Крыванос, а таму сход прыняўшы парадак дня распачаў працу. Пасьля прачытаньня пратаколу папярэдняга сходу, пратакол быў прыняты без засьцярогаў і папраўак. Справаздачу з дзейнасьці Акруговае Управы здаў сп. Клінцэвіч, фінасавую зложыў сп. Р. Гарошка, а культурна-асьветны рэфэрэнт с-ня З Станкевіч здала справаздачу з культурна-асьветнае дзейнасьці. Сп. Тулейка паінфармаваў аб дзейнасьці школьнага фонду.

У міжчасе гэтак зв. "лідэры", бачачы, што страцілі павагу паміж сябоў арганізацыі і ня могуць быць выбраныя на кіраўнічыя становішчы, пачалі пазакулісна радзіцца ды неспадзявана злажылі пісьмовую заяву дамагаючыся адлажыць сход. Распачалася над гэтым пытаньнем дыскусыя, у якой забіралі голас каля 25 асобаў, а некаторыя нават прамаўлялі разоў некалькі разоў. Дыскусыя прыняла нават вострую форму пасьля таго, як г.з. "інтэлігэнты" зрабілі закід сябром, што яны "цёмныя", а таму ня хочуць прызнаць іхняга "зьверхніцтва. Распачаліся пратэсты і контрпратэсты, абвінавачаньні адны другіх і конр-абвінавачаньні, у выніку чаго старшыня сходы пастанавіў справу на галасаваньне. За пастанову адлажыць сход галасавала 5 асобаў, а за пастанову прадаўжаць сход галасавала 25 асобаў, рэшта ўстрымалася. На аснове гэтага сход распачаў нармальна разглядаць наступныя пункты парадку дня. Сп. М. Кунцэвіч прачытаў справаздачу рэвізыйнае камісіі, прапануючы ўдзяліць уступаючай управе абсалютарыюм з падзякая за выняткам скарбніка Р.Гарошкі, якому ўдзяліць абсолютарыюм без падзякі, а то дзеля таго, што Гарошка грамадзкія грошы ўлажыў у свой прыватны інтэрас, ды пры спраўджаньні касы ў наяўнасьці грошай не аказалася і ня былі далічаны належныя працэнты, каліб арганізацыйныя грошы ў суме каля 1.000 даляраў былі паложаны ў банк.

У гэтым самым часе "непрэдрашэнцы ", а цяпер іх яшчэ наз. і "разбівальнікі" адзін за другім павыходзілі з залі абрадаў. Сходжа правёў сваю працу да канца, і выбраў новую Ўправу ў наступным складзе: К. Мерляк - старшыня, Д. Клінцэвіч-заступнік старшыні і скарбнік, В. Шчэцька-сакратар, А. Нестор -культурна-асьветны рэфэрэнт, Ю.Станкевіч-кіраўнік школы, Л.Леўковіч-арганізацыйны рэфэрэнт, В.Захаркевіч-сябра Ўправы. У Рэвізыйную Камісію выбраны: Др. Я.Станкевіч, П. Мельянрвіч і В. Юрцэвіч.

## ДРУГІ СХОД БАЗА АКРУГОВАЕ ЎПРАВЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

Другі сход сяброў Акруговага Аддзелу БАЗА Акругі Нью Ёрк,быў склікаы дня 27 чырвеня г.г. у прыватным памешканьні сп. А. Міцкевіча. Інцыятарамі склікаьня сходу былі тры сябры і няпраўны старшыня Галоўнае Ўправы Др. С.Станкевіч,які быў няпраўна выбраны ў мінулым годзе і непрызнаны бальшынёю сяброў арганізацыі,але дачасу пакінулі яго ў супакою.Гэта і дало яму пазьней штут і ён з некалькімі сябрамі наважыўся перабраць у свае рукі і Акруговую Ўправу ў Нью Ёрку. Калі ж ім гэта на сходзе I4 чырвеня не ўдалося,то склікалі другі сход і стварылі ў той самай арганізацыі Акруговым Аддзеле БАЗА другую Ўправу,на старшыню якога выбралі Др-ра Набагеза,на заступніка А.Шукеляйц,на скарбніка Р. Гарошку,на культурна-асьветнага рэфэрэнта З.Станкевіч,ды рэвізыйную камісіі ў складзе трох асобаў.

Гэта прыпамінае падзел,які адбыўся ў Нямеччыне і праводзіўся пад кіраўніцтвам тагож самага Станкевіча. Толькі зь ягонае інцыятывы і пару ягоных прыхільнікаў адбыўся падзел беларускае эміграцыі на "зрубежнікаў" і "крывічоў", сьведама і плянова ўведзены ў бел. грамадзкае жыцьцё закалоты,а таму згодна набытае практыкі яны пастараліся, каб падзяліць адзіную арганізацыю, выэлімінаваць ўсіх тых,хто не пагаждаецца з іхняю непрэдрашэнскаю палітыкаю і трымацца далей на кіраўнічых становішчах. Як гэтая справа будзе разьвязана пакажа будучыня. Калі ўсе сябры і беларускае грамадзянства пачне актыўна працаваць і дзеяць,то арганізацыя і наагул беларуская нацыянальная справа будзе ўратавана.Дзеля гэтага неабходна каб больш людзей улілося ў арганізацыю,выэлімінавалі шкоднікаў,ды актыўна занялася стварэньнем Адзінага Грамадзка-Палітычнага Прадстаўніцтва. Калі ж бел.грамадзянства будзе пасыўным,збыяковым,то напэўна гэтая група ў складзе некалькі асоб і далей будзе гандляваць імём Беларуса.

Гэтак дзеючы яны карыстаюцца стара-рымскаю практыкаю "дзялі і пануй" І цяпер доказы зусім ясныя.Заміж таго кб болш людзей уцягваць у арганізацыйнае жыцьцё ды ўсьведамляць іх яны -т.званыя "лідары" зусім пакідаюць паседжаньне і то толькі пятое,што адна,або дзьве асобы не заплацілі складак,хоць карыстаючыся іхняю практыкаю на Кангрэсе ў мінулым годзе што "Агульны Сход найвышэйшая ўлада" ім права голасу было прызнанае.

Трагэдыі тут няма ніякае.Падобныя выпадкі здарваліся і будуць здарацца ў бел. адраджэнскім руху,якога нікому не ўдасца ўжо спыніць, бо Нацыянальная бел. праблема не абмяжоўваецца ўжо адзінкамі і ня можа не вырашацца імі,а бальшынёю. Неабходна толькі зразуменьне важнасьці справы,пачаць усім актыўна працаваць і нацыянальная справа пойдзе нармальным шляхом.

Базавец

=============О=============

На просьбу ніжэйпадпісаных зьмяшчаем тут копію ліста наступнага зместу.

II лістапада I964г.

Рэдакцыі газэты "Беларус"
Нью Ерк,Н.У.

Паважаныя Спадары!

На першым паседжаньні,6/I9/64, Акруговая Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня разглядала справу дачыненьняў Рэдакцыйнай Калегіі газэты "Беларус" да сяброў Акругі БАЗА Нью Ёрк і яе ідэалёгіч-

нага напрамку.

Гэтае пытаньне было ўсебакова абмяркавана і сябры Ўправы сцьвердзілі:

I. Карэспандэнцыя аб сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў аснаўным не адказвае праўдзе, хаця рэдакцыя мела да выбару аж дзьве справаздачы.

2. Паведамленьне аб сьвяткаваньні 25-га Сакавіка, а пазьней праклямацыі "Беларускага Дня Незалежнасьці" гарадамі Нью Ерка і Пассайк, штатамі Нью Ерк, Нью Джэрсы і Пэнсыльванія ня былі рамешчаны ў газэце "Беларус".

3. Рэзалюцыя прынятая на Акадэміі 25-га Сакавіка ў Нью Ерку, таксама не была зьмешчана ў газэце "Беларус".

Усе вышэй пералічаныя дакументы маюць асаблівую важнасьць у змаганьні за вызваленьне - яны паказваюць, што права на незалежнасьць Беларусм амэрыканскае грамадзянства шырака падтрымлівае, а дзеля гэтага яны павінны пры кожнай нагодзе падавацца да агульнага ведама. Вышэй успомненая рэзалюцыя была надрукаваная "Конгрэссіонал Рэкорд" №74 з I7 красавіка I964 г. з прыгожай прадмовай Сэнатара К.Кэатінга. Аднак рэдакцыя "Беларуса" палічыла, што гэтая рэзалюцыя іцэалёгічна не адказвае іхняму напрамку.

Акруговая Ўправа БАЗА ў Нью Ёрку на аснове вышэй паданых фактаў зрабіла наступны высноў:

а/Газэта "Беларус" не рэпрэзэнтуе думкі і пагляду бальшыні сяброў БАЗА ад імя якое яна выдаецца.

б/Рэдакцыя "Беларуса", адкідаючы нацыянальнае вагі дакуманты гэтым пацьверджае свой непрэдрэшэнскі напрамак, які супярэчыць Акту 25-га Сакавіка і прынцыпам Беларускае Народнае Рэспублікі.

У сувязі з паданымі вышэй фактамі Акруговая Ўправа БАЗА ў Нью Ёрку складае свой пратэст і аднача́сна прапануе рэарганізаваць рэдакцыйную калегію "Беларуса", запрасіўшы да працы аўтарытэтных і цьвяроза думаючых беларусаў.

З пашанай

В. Шчэцька-сакратар К. Мерляк- старшыня

Копія Рэдкалегіі Канадыйскаму Аддзелу.

===============О==============

## ЗЬМЕНЫ Ў КІРАЎНІЧЫХ СТАНОВІШЧАХ У САВЕТАХ

Згодна паведамленьняў прэсавае агенцыі "Тасс" першы дэпутаваны на савецкага прэм"ера Анастас Мікаян - мянаваны цяпер прэзыдэнтам Савецкага Саюзу, на месца Леаніда Брэжнева, каторы цяпер прызначаны памочнікам Хрушчова ў кіраваньні камуністычнай партыяй.
З дыпляматычных крыніцаў даведваемся, што сучасны міністар замежных спраў Андрэй Громыко ў часе рэарганізацыі мянаваны на намесьніка прэм"ера і што гэта можа адбыцца ў бліжэйшым часе. Аднак Громыка згодна тыхжа крыніцаў далей застаецца міністрам замежных спраў, функцыю якога выконвае ад I95I году.

Брэжнеў дагэтага часу займаў падвойнае становішча-як галава Вярхоўнага Савету і сябра партыйнага сакратарыяту. Увайшоў у сакратарыят у мінулым годзе, пасьля таго, як паважна захварэў Флор Казлоў, які і дагэтага часу ёсьць спаралізаваным і публічна не паказваецца. Казлоў, якога назывàна наступнікам Хрушчова, сябрам сакратарыяту лічыцца і цяпер. У сучаснасьці Брэжнёў мая вялікія шансы стацца савецкім дыктатарам

на месца Хрушчова. Хрушчоў падаючы весткі пра намінацыю перад Вярхоўным Саветам праслаўляў Мікаяна як вернага служаку і "чалавека міру

Некаторыя дагадваюцца,што Хрушчоў плянова падрыхтоўвае свой адыход і дзеля гэтага пракладвае дарогу для Брэжнёва на становішча Прэм"ера Міністраў.

Мікаян,які ёсьць абсальвэнтам тэолёгічнае сэмінарый у Тифлісі, праз даўжэйшы час быў спэцыялістам па справах замежнага гандлю,а апошнім часам асабліва цікавіўся справамі замежнае палітыкі і быў амбасадарам раз"ездаў у З.Ш.А.,на Кубу,нядаўна вярнуўся з падарожжа ў Японію,Інданэзію і Бірму.

Для кожнага аднак дакладна ведама,што ўсе гэтыя пэрсанальныя зьмены ўсапраўднасьці нічога не зьмяняюць ні ў нутраной,ні ў замежнай палітыцы Савецкага Саюзу.

============О=========

## П Е Р А Д  П А Р О Г А М /Заміж фэльетона/

Даўно гэта было,даўно,і ня тут,на чужыне,але яшчэ на Бацькаўшчыне. Вясной зайшоў я да суседа.Дзень быў прыгожы,пагодлівы,цёплы.Яснае сонейка,здавалася,сваімі ласкавымі праменьнямі ахапіла ўвесь сьвет. Кураняткі чарадою бегалі за курыцай-мамай,нешта шукалі,дзяўблі маленькімі дзюбкамі тое,што паказвала ім квахтуха.Цікава было паглядзець на іх ня толькі малому,але і вялікаму.

Перад парогам быў агарод.Там поркалася наградках суседка.Я падышоў да яе,прывітаўся,загаварыў...Але наша гаворка трываля нядоўга, бо Міця,маленькі сынок,які сядзеў у сенях за парогам,заплакаў,але так гола́сна і раптоўна,што я аж спалохаўся.Я скочыў да яго,а ён плача аж заходзіцца.

-Што сталася?-пытаю ў яго,а ён плача,бо і гаварыць яшчэ ня можа. Прыбегла маці.Я думаў,што яна яго пашкадуе,але наадварот,узяла на рукі і яшчэ пару разоў ляпнула па мяккім месцы.

-За што?-пытаю,спачуваючы малому.

-Ведае,што не пералезе праз парог,а лезе.Вось што нарабіў,-гавора маці і паказвае на мокрую кашулю,на радзюшку.

Міця плакаў яшчэ,але паволі сьціхаў.

-І яму захацелася паглядзець на вясну,на куранятак,пагрэцца на сонейку,-гаварыў я.

Міця быццам зразумеў аб чым гавару я,сьціх - перастаў плакаць. Маці абмыла яго наладжыла сьвежую кашульку,прынесла чыстую радзюшку і пасадзіла малога на тое самае месца,дала цацку.Малы ўсьміхнуўся, паглядзеў на нас,пачаў ўглядацца на куранят,бо якраз яны перад парог падыйшлі,але не прабаваў больш пералазіць-забаўляўся.

Гэтае здарэньне я быў забыўся даўно,але прыпомніў цяпер пад старасьць,як прачытаў прамову Мікіты Хрушчова.

- Эх,- думаю - Мікіта,ты-ж не пералезеш праз парог у камунізм, хоць гаворыш,што ён блізка - рукою можна дастаць,толькі пералезці праз парог трэба. А калі пажывеш даўжэй, дык можа нехта так заехаць у затылак,што толькі зоркі з вачэй пасыплюцца. Дык лепш не сьмяшы людзей,не рабі таго,што малы Міця нарабіў,..бо ўсёроўна непералезеш у камунізм. ЖАРНАВЫ.-

============О========

Прыслоўя ."Для думаньня патрэбны мазгі,не гаворачы ўжо аб чалавеку."

"Каму не хапае рашучасьці і волі - не хапае розуму."

"Праўда ляжыць звычайна пасярэдзіне.Часьцей за ўсё без помніка"

## Б Е Л А Р У С К А Е В Я С Е Л Ь Е.

Дня 27 чырвеня 1964 г. адбыўся шлюб сп. Марыі Лук"янчук з Кліўленду з сп. Аўгенам Нестрам з Нью Ёрку. Таінства шлюбу ўдзяліў настаяцель парафіі БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд Прат. айцец Аляксандар з Протадыяканам Калістаратам Савіцкім.Пры перапоўненай Царкве людзьмі пабожна,магутна і ўрачыста луналі малітоўныя напевы Парафіяльнага хору пад умелым кіраўніцтвам дырыгэнта сп. К.Кіслага. Паважнасьць выкананьня шлюбнага абраду і мэлёдыйнасьць хору гэтак узьвялічылі чын шлюбу сваe добрае харыстқі,а цяпер сужонкі беларускага актыўнага грамадзкага працаўніка і тую важную падзею,якую яны духова перажывалі,калі Гасподзь Бог злучваў іх да шчасьлівага,вернага,хрысьціянскага,нацыянальна-сьведамага жыцьця, аб чым прыпамінаў ім вітаючы а. Аляксандар. Аб прыгожасьці і ўрачыстасьці шлюбу,сьветчаць і словы прысутных людзей іншае нацыянальнасьці з вуснаў якіх чуліся словы:"Гэтвае Беларускае Вясельле"першы раз у жыцьці здарылася нагода мне бачыць.

А пасьля шлюбу,хоць далёка ад Роднага Краю,але ў прысутнасьці сваіх бацькоў,братоў,сясьцёр і родзічаў, у грамадзе сваіх суседаў з Бацькаўшчыны,сяброў і аднадумцаў,адбывалася вясельнае прыняцьцё ў вялікай залі "Лэмко Гол". Ды ня толькі прысутным была вялікая радасьц прысутнічаць на гэткай урачыстасьці,але радаваўся і малады,што Бог паслаў яму добрую,сьведамую беларускую праваслаўную дзяўчыну,якую бацькі ўзгадавалі на шчырую беларускую патрыётку.

Абое з сужонкаў прымалі чынны ўдзел ў беларуска-арганізацыйна-грамадзкай працы і пажадана каб з падвойнаю сілаю прадаўжалі яе далей на карысьць свайго народу і свае Царквы, а тады і шчасьце іхняе сямейкі падвоіцца. Гэтага жадалі ўсе прысутныя госьці, складаючы маладым магчымыя падарункі,а таму на месцы тут будзе скласьці госьцям падзяку,а Маладым - Многія Лета! Рэдакцыя "Уздыму"

## Н О В А Я М А Л А Д А Я П А Р А

Шматгадовы скарбнік Парафіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд магістар Мікола Ягоўдзік і сп. Валянціна Шпэдзік-Мікуліч - харыстка Царкоўнага хору гэтае Царквы, уступілі ў сужэнства ў нядзелю I2 ліпе 1964 году.Таінства шлюбу ўдзяліў астыяцель парафіі Пра. а. Аляксанд у саслужэньні з дыяканам К. Савіцкім.Хорам кіраваў дырыгэнт сп. К. Кіслы. Гаспадаром вясельля быў сп. М. Гумен. У надзеі,што сужонкі да будуць шчыра працаваць на рэлігійнай ніве, пажадаем ім шмат удачы ў новым жыцьці.Сто Гадоў.

Рэдакцыя.

===========0============

## А Б В Е С Т К І

Ужо вышла з друку першая на эміграцыі ілюстраваная рэлігійная беларуская кніжка-падручнік для школаў і самаадукацыі "Сьвяшчэнная Гістрыя Новага Запавету"

Кніжка апрацавана кандыдатам багаслоўя Сяргеям Паўловічам ў Вільні.Абыймае I52 балонкі тэксту з 24 прыгожымі рэлігійнымі малюнкамі

Цана 2.50 амэрыканскія даляры.У Англіі I5 шылінгаў.У іншых краінах роўнавартасьць 2.50 амэрыканскіх даляраў.Кошт перасылкі аплачвае набыўца.Замаўляць па адрысу: Very Rev.A.Kryt,3517 W.25th St., Cleveland 9.U.S.A.

Выдавецтва "Вехі" выдала аповесьць Ю.Жывіцы "Носьбіт Ідэі" на ратататары,на добрай паперы .Кніжка мае 120 бач. Аповесьць цікавая.У ёй адлюстравана змаганьне Беларусаў на Беласточчыне перад апошняй вайной і ў час вайны за вызваленьне. Асобы,якія ўспамінаюцца у ёй,жывуць і цяпер у Нямеччыне, Англіі,ЗША і Канадзе. Цана кніжкі 2 даляры.

Апрача гэтай аповесьці можна набыць яшчэ аповесьць Ю.Жывіцы "Пушча Шуміць", выдана таксама на ратататары,з друкаванаю вокладкаю. Кніжка абыймае 99 бач. Аб гэтай аповесьці,хто чытаў,усе вельмідобра адгукнуліся,і была вельмі прыхільная зацемка аб ёй у "Сяўбіце". Цана 2 даляры. Абездзьве кніжкі можна дастаць пішучы па адрысу:

Z.B.P.,6781 Windsberg,Wester Germany.

=============О=============

Да нас пішуць .

Пав. выдавецтва "Уздыму"! Гэтым ветліва прашу зьмясьціць на бач. Вашага часопісу наступнае:

У № 26 вунійнае "Беларускае Царквы",што выдаецца Панруцэвічам і Ко. ў Чыкаго,на бач. 185 зьмешчаны артыкул аб 25-годзі сьвятарскае дзейнасьці а. Міхася Маскаліка.Прачытаўшы гэтыя хвалебныя гімны для юбілера,паўстае пытаньне дзеля чаго гэтыя "Слугі Божыя" выбралі гэткі фальшывы мэтад займацца самахвальствам,якое зусім на адказвае праўдзе. А таму асьвечваю: Няпраўдаю ёсьць,што а. Маскалікі кончыў Беларускую Гімназію ў Нясьвіжы,бо ўсапраўднасьці яна ўжо ў 1921/22 годзе была перанесена ў Клецак,а а. Маскалік кончыў чыста Расейскую Сьмешаную Гімназіі "Общества Родітелей" у каторай нават не выкладалася Беларуская мова. Выдумкаю гэтак сама ёсьць,што Маскалік у 1922 годзе ўступіў у Беларускі скаўтцінг,які ў сапраўднасьці не існаваў пры гэтай гімназіі.Не быў залічаны сталым студэнтам на Віленскім унівэсытэце,а наведваў яго толькі як вольны слухач.

Вельмі ёсьць сьмешным і недарэчным прыпісваць а. Маскаліку тытул " Беларускага рэлігійна-нацыянальнага дзеяча",калі дакладна ведама, што а. Маскалік служыў і служыць толькі ўкраінскім вуніятам,усхвальвае заўсёды ў пропавядзях украінскіх паэтаў і ўкраінскую вунійную Царкву Прыпісваць яму заслугу і прызнаваць пахвалу за беларускасьць толькі за тое,што ў лягры Ватэнштэдт адправіў ў лацінскім абрадзе для беларусаў-каталікоў некалькі Багаслужбаў вельмі недарэчна,бо гэта ён мог ўчыніць толькі для матарыяльнае карысьці,бо ведама,што стала належыць да ўкраінскае вунійнае дыяцэзіі.

Зусім падана несправядлівая інфармацыя і аб абслугоўваньні беларусаў у Гослеры,бо кожнаму ведама,што там няма ніякіх Беларусаў- вуніятаў,а праваслаўныя з Гослеру былі ў 1946 годзе савецкаю місыяй сілаю вывезены ў Савецкі Саюз. Дык і хтож можа паверыць гэткай ілжывай пісаніне,якая друкуецца ў "Беларускй Царкве" ды яшчэ ў сучаснасьці,калі для кожнага ведама,што а. Маскалік здрадзіў Праваслаўную веру -прыняўшы вуніяцтва і здрадзіў нацыянальнасьць,бо далучыўся да ўкраінцаў, якім верна служыць.

Ракач.

=================О=================

У В А Г А! У В А Г А!

Вельмі Паважаныя чытачы"У З Д Ы М У"

Гэтым ветліва прыпамінаем урэгуляваць належнасьць за часопіс,

У вапошні мамэнт да рэдакцыі надыйшла просьба зьмясьціць наступнае:

## З В А Р О Т

да сяброў Беларуска- Амэрыканскага Задзіночаньня Акругі Нью Ёрк і беларускага грамадзянства ў Амэрыцы.

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

У сувязі з тым,што адбыліся два Агульныя Сходы і выбраныя дзьве Ўправы Акругі БАЗА ў Нью Ёрку,зь якіх першая выбрана на праўным сходзе 14 чырвеня 1964 г.,а другі няпраўны сход,скліканы пад дыктоўку пару асобаў 27 чырвеня 1964 г.,высьняем:

Малая група людзей,даслоўна чатэры асбы,прысвоіўшы сабе кіраўніцтва Рады БНР на эміграцыі,зманапалізавала ідэалёгію БНРу,падмяніўшы яе ідэяй невырашэньня,акую ўпорыста накідае беларускому нацыянальнаму руху й пасьлядоўна яе сіліцца ажыцьцявіць.

Гэтыя людзі зьліквідавалі практычную дзейнасьць і арганізацыйную жыцьцяздольнасьць Рады БНР.Самавольна сталіся адзінымі кіраўнікамі яе,а лік сяброў Рады абмяжавалі да колькасьці людзей,што працуюць у К-це Радыё "Свабода".Яны паступова апраўдваюць утапічныя міты - не адбудоўваць Беларускае Дзяржавы,а ўсялякую крытыку іхняе дзейнасьці ўважаюць антыбэзнэраўскай.

Расправіўшыся з абсалютнаю бальшынёю сяброў у Радзе БНР перакінулі сваю акцыю ў асяродзе арганізацыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.На апошнім Кангрэсе БАЗА,пагвалціўшы Статут і дэмакратычныя прынцыпы арганізацыі,правялі на старшыню др.Ст. Станкевіча,экспэрта лягерных інтрыгаў,якія ён бязсорамна практыкуе і цяпер у БАЗА.

На Агульным гадавым Сходзе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Акругі Нью Ёрк 14 чырвеня 1964 г.,бачачы,што яны ня змогуць накінуць свае волі бальшыні сябром арганізацыі,пакінулі сход/А пакінулі пасьля ўсіх справаздачаў уступаючае Ўправы/. Прэзыдыюм,зразумеўшы іхнія намеры давёў сход да канца і новая Ўправа была выбрана.Аднак 27 чырвеня, тыя што пакінулі сход,сабраліся на прыватным памешканьні і выбралі другую Акруговую Ўправу.

Згодна справаздачы Рэвізыйнай Камісіі /М.Кунцэвіч і В.Юрцэвіч/,скарбнік Р. Гарошка скарыстаў грамадзкія грошы для сваіх прыватных інтарэсаў.У доказ гэтаму прыводзім цытаты з пратаколу Р!візыйнай Камісіі:

" Стан касы выказаны ў банковай кніжцы "Квінс Коўнтры Савінгс Банк" № 284030 фігуруе на імя сп. Рогэр Н.Горошко.У кніжцы запісаны дзьве пазыцыі,з 28 трэўня 1964г.-уплата 500 і з 3 чэрвеня 1964 году -уплата сумы 1.000.00 даляраў.Належныя працэнты на працягу ўсяе кадэнцыі не далічана і не запісана." Пасьля прачытаньня гэтага пратаколу,скарбнік Р. Гарошка пакінуў Сход,а другім сходзе быў выбраны скарбнікам другое ўправы.

"Р!візыйная Камісія,прыймаючы пад увагу,што ў аснаўным Акруговая Ўправа з свайго абавязку вывязалася належна і справаздачы Ўступаючай Управы ,апрача касавае,ёсьць ўпарадку,запрапанавала абсалютарыюм удзяліць,за выняткам скарбніка,якому ўдзяляецца абсалютарыюм пад умоваю,што належныя ад сумы працэнты будуць уплачаны да 14 ліпеня 1964г.

ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫНІ І СПАДАРЫ!

У выніку вышэпададзенага Акруговая Ўправа БАЗА зварочваецца да Вас,

больш зактывізавацца і прыняць лічнейшы ўдзел у арганізацыйным жыцьці. Гэтым мы пераможам ўсялякія інтрыгі, якія прадыктатарскі элемэнт рад варожыю дыктоўку жацеў-бы ўжыць для зьліквідаваньня нашай так патрэбнае арганізацыі. Гэткім спосабам мы зможам і выэлімінаваць усіх накідаючых нам сваю дыктатарскую ўладу ў найбольшых беларускіх арганізацыях у Амэрыцы дзеля сваіх асабістых мэтаў.

Дзеля таго, што скарбнік папярэдняе Ўправы апынуўся ў другой "упра. Акруговага Аддзелу, якая пяпраўна палічыла сябе собсьнікам 1,191.8 даляраў, сабраных Акруговым Азддзелам на працягу доўгіх вадоў працы, наша Ўправа засталася без ніякіх матарыяльных сьродкаў. Аднак Новая Ўправе не мая намеру працу занедбаць і актыўна праводзіць далей пакольк гэтага вымагае дабро агульна-беларускае, а кожнаму з нас ведама, што для ўнармалізаваньня кожнае справы патрэбен час і гэтак сама матарыяльныя сьродкі.

Дзеля гэтага заклікам 1. усіх хто не зьяўляецца яшчэ сябром БАЗА злажыць залучаную заяву. Сяброўская складка толькі адзін даляр у месяц ад даты ўступу ў арганізацыю.

2. Усе сябры БАЗА, што задоўжыліся з аплатаю сяброўскіх складак, будзьце ласкавы ўрэгуляваць задоўжанасьць. Тыя сябры, каторыя задоўжыліся больш як за год, урэгулюйце складкі, плацячы ад студзеня 1964 года. Кожнаму ня толькі сябру БАЗА, але шчыраму беларусу цаклад на ведама акруговы Аддзел ня мая ніякіх сьродка, а таму сябры Ўправы і зварочваюцца да Вас з гарачым заклікам абмаральным і матарыяльным падтрыманьні, а гэтым самым спрычыніцеся да хутчэйшага пашырэньня дзейнасьці Аддзелу БАЗА Нью Ёрскае Акругі.

Грошы просім перасылаць на адрыс скарбніка.

Mr. D.Klincevich,
1148 Blake Ave,
Brooklyn 8, N.Y.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Акруговая Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку

New York,
18 lipienia 1964 h.

К. Мерляк- Старшыня,
Д. Клінцэвіч -1 заступнік старшыні і скарбнік
В. Захаркевіч-2гі заст. старшыні
В. Шчэцька - сакратар
А. Несьцяровіч - культурна-асьветны рэфэрэнт.
Ю. Станкевіч - кіраўнік школы
Л. Леўковіч -арганізацыйны рэфэрэнт.

Адрыс арганізацыі бяз зьмены:
Byelorussian-American Association, Inc.
New York Branch, 401 Atlantic Ave,
Brooklyn 17, N.Y.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ ІМЯ ГЕНЕРАЛА К.ЕЗАВІТАВА Ў К Л І Ў Л Е Н Д З Э ШТ. О Г А Й О.

## А С Ь В Е Т Ч А Н Ь Н Е

Дня 3 жніўня 1964 г. Управа Згуртаваньня Бел.-Амэр. Вэтэранаў на сваім чарговым паседжаньні, разглядзяўшы ўсёбакова справу запросінаў на шостую сустрэчу Беларусаў,якая мая адбыцца 5,6,7 верасьня 1964г. у Нью Брунскіку,прадыскутаваўшы справу разсылкі запросінаў на сустрэчу за подпісам няпраўнага старшыні Галоўнае Управ БАЗА,пастанавіла не прыймаць удзелу ў сустрэчы з наступных прычынаў:

1.Дзеля таго,што сустрэчу арганізуе скампраметаваная малая група людзей,якія сваёю разьбівальнаю дзейнасьцю ў грамадзкім і рэлігійным жыцьці,страцілі ўсялякі давер сярод беларускага грамадзянства,таму Арганізацыя былых вайскоўцаў ня мая права сваім удзелам падтрымліваць сучасных арганізатараў сустрэчы,бо жаўнер павінен стаяць у абароне агульна беларускае справы,для дабра бел. народу ўцэласьці,а не падтрымліваць скампраметаваных адзінак.

2.Дзеля таго,што асобы,якія сябе мянуюць сябрамі Галоўнае Управы БАЗА ня былі праўна выбранымі на дзесятым Кангрэсе,а гэтым самым сфальшавалі яго,прызнаючы 6 дадатковых галасоў дэлегацыі з Кліўленд, а гэтым самым пагвалцілі статут арганізацыі.

3.Дзеля таго,г.н. старшыня Галоўнае Управы БАЗА д-р С. Станкевіч, ў часе свайго пабыту ў Кліўленд у кастрычніку 1963 г.,нячэсным спосабам дамагаўся ўправамоцніць фальш Дзесятага Кангрэсу БАЗА.

4.Дзеля таго ,што сябры Галоўнай Управы БАЗА, перашкаджалі да аб"еднаньня і супольнага адзначаньня Акту 25-га Сакавіка ў Нью Ёрку,стараючыся гэтым прытлуміць імкненьні да вызваленьня Беларусі з маскоўскай няволі.

5.Дзеля таго,што пад дыктоўку д-ра С.Станкевіча дывэрсыйным спосабам для прыватных інтарэсаў створана другая Управа БАЗА на Нью-Ёрскую Акругу пасьля праўных выбараў дня 13 чырвеня 1964г.

6.Дзеля таго,што арганізатары сустрэчы варожа аднесьліся да адзначаньня дваццатых угодкаў абвешчаньня мабілізацыі рэгулярных Бел.

Збройных Сілаў,урачыстасьць якіх адбылася 4 ліпеня 1964г.на рэс."Менс

7.Бяручы пад увагу вышэйпададзеныя факты,Згуртаваньне Кліўлендзкіх Вэтэранаў ня можа ўзяць удзелу ў сустрэчы і заклікае аднача сна іншыя аддзелы Вэтэранаў прыняць падобную пастанову,праз што мы ,як вайскоўцы, захаваем гонар бел. жаўнера і сумленьне наша будзе чыстым ад тых інтрыгаў,якімі карыстаюцца вырадкі грамадзянства для ўласнага дабрабыту.

8.Заклікаем так сама ўсіх яшчэ не-зарганізаваных вайскоўцаў і грамадзянства імкнуцца да зарганізаваньня агульна-беларускай сустрэчы падобнай асьвяткаваньню бел. вайскоўцамі ў сёлятнім годзе,ідэалам якога быў заклік да агульнага,а не груповага аб"еднаньня,бо Беларускі жаўнер прысягаў і будзе прысягаць свайму народу ўцэласьці прамаўляючы словы:

"Буду змагацца верна да апошняй каплі крыві,а ў выпадку патрэбы аддам сваё жыцьцё за Беларусь і Беларускі Народ,так дапамажы мне Бог".

Як урачыста гучаць словы,дапамажы мне Бог.І як прыкра і балюча перажываць,калі г.з. шэстую сустрэчу арганізуе групка людзей ў якой

Дамінуюць не хрысьціянскія ідэалы абаснаваныя на братэтстве,згодзе і любові,а асабістыя выгады,якія лягчэй здабываць займаючы кіраўнічыя становішчы.

Дзеля гэтага, біручы пад ўвагу сучасны падзел нашае эміграцыі і дзейнасьць кожнае паасобнае групы,радзім для тых, што жадаліб узяць удзел у гэтак званай сустрэчы,незалежна ці зьяўляецца былым вайскоўцам,або толькі беларусам,каб добра перад гэтым затрымаліся над пытаньнем,ці сваёю прысутнасьцю ,на выменай сустрэчы ,не спрычыніцца да падтрымкі зьнішчальнікаў Сьвятых Ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі.
Слава палеглым за Бацькаўшчыну Гэроям!
Згінь маскоўская тыранія!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

Кіраўніцтва Бел.-Амэрыканаскіх
Вэтэранаў у Кліўлендзе,Огайо.

=====================О=====================

## ГІСТАРЫЧНЫЯ АСЯГНЕНЬНІ АМЭРЫКІ Ў КАСМОСЕ

30 ліпеня г.г.касмічная ракета "Рэінджэр'7",даканала сваю ўдалую місыю,праляцеўшы 243,665 міляў у 68 гадзінаў і 35 хвілін і пацэліла ў вызначанае для яе месца на месяцы,у адлегласьці толькі 9-10 міляў ад пункту прыцэлу.Даляцеўшы да месяца у апошнім этапі свайго падарожжа "Рэінджэр" зрабіў з дапамогаю шасьці фота-тэлевізыйных камераў 4320 фотаздымкаў паверхні месяца.Усе здымкі былі перэданыя апаратурэю на зямлю,дзе іх пасьпяхова адбіралі спэцыяльныя станцыі і неадкладна выклікаліся. Фота-здымкі зробленыя з тае часткі месяца,якая было абернена да сонца,вельмі дакладныя,і больш выразныя,як зробленыя ў 1959 годзе савецкім "Лунікам" які зрабіў здымкі ў адлегласьці 37.000 да 40.000 міляў ад месяца.

Згодна праведзеных дасьледаў ёсьць мажлівасьць ужо высаджваць за пасярэдніцтвам ракетаў людзей на месяц, што падлягала вялікаму сумліву,бо шмалікія астраномы сцьвярджалі,што дэсант на месяц немагчымы з пагляду на грубы слой вульканічнага попялу,які меўбы пакрываць паверхню месяца.

Пасьпех ракеты "Рэінджэр" выклікаў агульнае задаваленьне ў ЗША і добры адгалосак ўва ўсіх краінах. Ужо на 1965 год Амэрыка плянуе пробну высадку ракеты на месяц-як падрыхтоўку да высадкі людзей на месяц у 1970 годзе.

А Ўрадавая Камісія для спраў касьмічных дасьледаў раздзяліла 10.200 даляраў нагароды для сямёх амэрыканскіх навукоўцаў,якія сваімі дасьледамі спрычыніліся да пасьпеху ракеты "Рэінджэр 7".

===============О===============

**НОВЫ "КІТАБ".** "У 1915 г. сярод філёлёгаў-знаўцаў беларускай славеснасьці абляцела радасная навіна: у пасёлку недалёка ад Вільні была знойдзеная нязвычайная рукапісная кніга.Яе пажоўклыя старонкі былі пакрыты старанна выпісанай арабскай вязьзю.Калі спэцыялісты пачалі расшыфроўваць яе- гэтае складанае перапляценьне розных ліній,кропак, завітушак, - на іх дыхнула прыемным водырам беларускае мовы...
"І вось нядаўна А.Адамовіч знайшоў у Вільні другі "Кітаб",які трохі старэйшы і захаваўся значна лепш за першы.Пакуль што нельга меркаваць ці перапісаны яны адзін з аднаго,ці можа з нейкага трэйцяга варыянту яшчэ не знойдзенага.Вучоны працуе над ім"./"Літаратура і мастацтва"/




Дзень Беларускага жаўнера ў Менску, Нью Ёрк, 4-га ліпеня 1964 году.



Танцавальны гурток Беларускае Сыботняе Школы ў Кліўлендзе.



Выстава беларускага народнага мастацтва, якую ладзіла ЗБМ у Кліўлендзе на міжнароднай выставе.



Хор "Палесьсе" ў Ракфордзе .



Танцавальны гурток ЗБМ ў Кліўлендзе на сусьветнай выставе ў Нью Ёрку выконвае "Мікіту".

# Х Р О Н І К А

Кліўленд:

10-га травеня Аддзел ЗБМА адзначыў "Дзень Маці. Кіраўнік Аддзелу Ул.Дунец адчыніў Акадэмію ды зьвярнуў увагу прысутных колькі беларуская матка перанесла гора і мукаў і толькі дзякуючы ёй беларускі народ захаваў сваю родную мову, любоў да сваёй радзімы ды ня згінуў. З кароткім словам зьвярнуўся да матак а.А.Крыт. Іра Каляда прачытала шырокі даклад на тэму дня маці. Мастацкая частка складалася з народных танцаў, сьпеваў, выступаў на акардыёне і піяна ды дэклямацыяў. Пасьля мастацкае часкі для ўсіх матак быў пачастунак.

16-га травеня танцавальны гурток моладзі і салістка Іра Каляда наведалі Дэтройт ды прынялі удзел у канцэрце, які ладзіў мясцовы Аддзел БАЗА. Пасьля канцэрту адбылася вечарына.

17-га травеня адбыўся справаздачна-перавыбарчы сход кліўлендзкага Аддзелу БАЗА. На старшыню сходу быў выбраны сп.М.Кабяко, а на сакратароў сп.М.Гумен і Я.Раковіч. Пасьля справаздачаў і праверкі паўнапраўных галасоў Управа Аддзелу была выбраная ў наступным складзе: Ул.Дунец - старшыня, В.Валюкевіч - заступнік, В.Радзюк - сакратар, А. Кабяко - скарбнік і Ул.Літвінка - культурна-асьветны рэферэнт. У Рэвізыйную Камісію увайшлі К.Калоша, Я.Раковіч і А.Каспэровіч.

24-га травеня Аддзел ЗБМА прыняў удзел у міжнароднай выставе, якую ладзіла заходняя частка гораду. Беларуская выстава народнага мастацтва была найпрыгажэйшая. У канцэртнай часцы выступала танцавальная група і салістка Іра Каляда, якая пад акампанімэнт Ул.Літвінкі прасьпевала рад песень. Аб посьпеху салісткі гаворыць сам факт, што на наступны дзень у мясцовай газэце зявілася толькі ейная зьнімка з усіх выступаючых на канцэрце.

25-га травеня парафія Жыровіцкае Божае Маці абыходзіла парафіяльнае сьвята. На гэтае сьвята прыбыў Высокапрэасьвяшчэнейшы Уладыка Васіль. Пасьля Багаслужбы адбыўся банкет, на якім прысутнічыла шмат гасьцей. Падчас банкету былі мастацкія выступы.

Кліўлендзкі Аддзел вэтэранаў аднавіў сваю дзейнасьць. На сходзе, які дабыўся 30-га травеня было выбрана кіраўніцтва ў наступным складзе: П.Гасьцееў - кіраўнік, В.Падліпскі - заступнік і К.Калоша - сакратар і скарбнік.

6-га чырвеня кліўлендзкі Аддзел ЗБМА арганізаваў паездку ў Ракфорд, дзе з мясцовым хорам "Палесьсе" далі канцэрт. Хор выканаў 6 беларускіх патрыятычных і народных песьняў. Салістка Іра Каляда прасьпявала рад песьняў пад аканпанямэнт Ул.Літвінкі. Танцавальная група моладзі з Кліўленду выканала тры беларускія танцы. Канферансе вёў Ул. Дунец, які перад апошнім номерам запрасіў хор "Палесьсе"ў Кліўленд ды пахваліў хор за прыгожы сьпеў. Пасьля канцэрту распачаліся танцы пад аркестру "Палесьсе" з Кліўленду. Гэта была адна з найбольш карысьнейшых паездак. Ракфордзкія беларусы хоць і добрыя і шчырыя людзі, аднак крыху былі занядбалі нацыянальнаю справу. Пасьля канцэрту ў сяброўскіх гутарках абяцалі, што больш увагі прысьвецяць для нацыянальнае справы. Прыймалі гасьцей з Кліўленду вельмі шчыра. Асабліва вялікае захапленьне прысутных было канцэртам. Пабачыўшы свае народныя танцы і пачуўшы сваю родную песьню,ні ў аднаго вочы памутнелі, абудзілася любоў да свайго народу, бацькаўшчыны ды апанавала духовая радасьць.

Вялікая падзяка за ўдалае арганізаваньне імпрэзы належыцца сп.М. Шыкалюку, а таксама і яго спадарыні за такое шчырае прыняцьцё, хаця ўсе машыны прыяжджалі ў ночы ды далі зусім заснуць. Таксама належыцца падзяка музыкантам "Палесься" на чале зь іх кіраўніком Ул.Літвінкам, што ехалі так далёка ды гралі бязінтэрэсоўна, каб толькі памагчы сва-

ім суродзічам арганізаваць беларускае жыцьцё.

13-га чырвеня адбылося заканчэньня навучальнага школьнага году Беларускае Сыботнае Школы. Айцец А.Крыт адслужыў малебен, пасьля чаго распачаўся урачысты сход. Кіраўнік школы праф.А.Каланоўскі прамовіў да вучняў і бацькоў ды раздаў выпускныя пасьведчаньні вучням 4-ае клясы. Клясныя настаўнікі раздалі ведамасьці пасьпяховасьці вучням I, 2 і 3-яе клясаў. Пасьля кароткага перапынку распачалася мастацкая частка. Тут выступалі вучні з танцамі, сцэнкамі, дэклямацыямі ды выступамі на акардыёне і піяна. Канферансе была Марыя Каваленка. Бацькоўскі камітэт зарганізаваў багаты буфэт.

21-га чырвеня Аддзел ЗБМА арганізаваў паездку на Беларускі Фэстываль, які адбыўся на Сусьветнай выстаўцы ў Нью Ёрку. Фэстываль арганізавалі Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньня і Беларускі Кангрэсовы Камітэт. Бралі ўдзел дзьве танцавальныя групы ЗБМА зь Нью Ёрку і Кліўленду, жаночы хор "Каліна" пад кіраўніцтвам Барысаўца, мяшаны хор пад кіраўніцтвам Д.Зерасава ды салісткі Іра Каляда, К.Гіл і З.Наркоўская. Салісткам падыгрывала праф.Э.Зубковіч. Тут былі сабраныя вялікія сілы салісткі выступалі вельмі прыгожа; абодва хоры былі належна падрыхтаваныя ды вялікія колькасна; найбольшае ўзьдзеяньне на прысутных рабілі беларускія народныя танцы, бо песьні для чужынцаў, якія ня знаюць мовы, ня былі так цікавымі, хаця й сьпявалі надзвычайна прыгожа ды мелі добра вышытыя народныя строі. Асабліва было прыгожа і прыемна глядзець калі спалучыліся дзьве танцавальныя групы на "Мікіту". Каля сорак танцораў моладзі ў прыгожых строях- гэта запраўды нешта надзвычайнае.

Як-бы прыемна было, каб беларусы ня толькі навонкі выступалі разам, але і ладзілі агульныя сустрэчы разам, дзе можна задэманстраваць беларускае мастацтва ды вынесьці адпаведныя рэзалюцыі. Ніхто нікога не пераверне і не перагаласуе. На тых, што не дапушчаюць да еднасьці, ня трэба зьвяртаць увагу. Яны крычаць за Беларусь, а робяць вялікую шкоду для нашае эміграцыі. Яны не далі нам жыць яшчэ ў Эўропе і тут хочуць гэтую сварку перадаць нашым дзецям.

20-га ліпеня адбыўся мітынг этнічных групаў. Прысутнічаў маёр гораду і шмат іншых, якія займаюць адказныя становішчы ў горадзе Кліўленд. Ад беларусаў на мітынгу прысутнічаў сп.К.Калоша й сп.Ул.Дунец. Маёр заклікаў вучыцца самім ды вучыць сваіх дзяцей мовы паходжаньня ды шанаваць культуру і звычаі тога народу, зь якога кожны паходзіць.

9-га ліпеня арганізацыі Кліўленду арганізавалі агульна-беларускі пікнік. Вельмі прыемна прайшоў час на вольным паветры ў,запраўды,сяброўскай атмасфэры. Адны гралі ў сетку, іншыя загаралі, а некаторыя праводзілі гутарку на розныя тэмы ды прагнялі смагу, карыстаючы з буфэту. Прыбытак зь пікніку пойдзе на агульную дзейнасьць беларускае калёніі, як сьвяткаваньні угодкаў, выступы на вонкі і г.д..

\+ \+ \+ \+ \+

Перасылайце ў хроніку "Узлыму" весткі зь беларускага жыцьця!

# БАЦЬКІ БЕЛАРУСЫ!

На парозе новага школьнага 1964/65 году хочацца тут прыпомніць, што нашыя родныя беларускія сыботнія школы будуць прадаўжаць працу і ў гэтым годзе. Тыя бацькі, якія пасылалі сваіх дзяцей да беларускіх школаў, зразумелі, якую карысьць з гэтага маюць яны, а асабліва іхнія дзеці і ўсё беларускае грамадзянства.

Ёсьць аднак, яшчэ ня мала беларускіх дзяцей, якіх бацьке не лічаць сваім абавязкам пасылаць да родных школаў і не дбаюць пра навучаньне дзяцей беларускай мовы, бел. гісторыі і беларускіх традыцыяў, а гэтым самым пазбаўляюць дзяцей нацыянальнае веды. Таму і зварочваемся да іх з гарачым заклікам пасылаць у гэтым годзе дзяцей ў бел. школы там, дзе яны ўжо існуюць і зьвярнуць увагу на навучаньне дзяцей белар. мовы дома тым бацьком, дзе бел. школкі няма, або няма магчымасьці яе зарганізаваць.

Сьведамых беларускіх бацькоў у гэтым пераконваць ня трэба, бо яны добра разумеюць, што дзіця ўзгадаванае ў роднай школе, не выракацца сваіх бацькоў і будзе ганарыцца сваім беларускім паходжаньнем. У будучыне яно можа стацца актыўным сябром бел. грамадзянства і мэтаю ягонаю можа стацца дапамога далёкай, а блізкай сэрцу-паняволенаму беларускаму народу і Бацькаўшчыне Беларусі. А ўзгадоўваныя дзеці пры парафіяльных школах, сьведама могуць пераняць ад сваіх бацькоў кіраўніцтва ў царкоўным жыцьці тут на эміграцыі. Яны не адракуцца свае Царквы і тых культурных здабыткаў, якія іхнія бацькі здабылі сваёю цяжкаю працаю. Мы-ж маям шмат прыкладаў, што моладзь узгадаваная не ў родных, а школах чужых, у шматлікіх выпадках выраклася сваіх бацькоў і свае нацыянальнасьці, ды і перайшла на службу да варожае нам нацыянальнасьці, аддаючы свае веды і працу на ейную карысьць.

Кожнаму з нас ведама, што ў сучаснасьці на Бацькаўшчыне праводзіцца паўнейшая русыфікацыя нашага народу. Доказам гэтаму можа быць кожнаму ведамы факт, што нашыя родзічы, каторыя нават не разумеюць расейскае мовы змушаны пісаць лісты да родных "ламанаю" расейшчынаю.

Тутжа ў вольнай краіне - мы карыстаемся поўнаю свабодаю і ня маям перашкодаў праводзіць нацыянальнае ўзгадаваньне моладзі, а таму і нашыя нацычнальныя школкі могуць нармальна разьвівацца. Амэрыканскі Ўрад зусім прыхільна адносіцца да праводжаньня нацыянальнае культуры і вывучаньне мовы. А таму ад нас самых задежыць, як мы павінны выкарыстоўваць гэтую нагоду. Не закопвайма сваіх талантаў ў зямлю. Пакіньма ўсе спрэчкі, груповыя падзелы і непаразумленьні, а працуйма на славу і дабро ўласнае, на карысьць агульна-грамадзкую.

Пасылаючы сваіх дзяцей да родных школаў, заахвочваючы свах прыяцялёў, знаёмых і суседзяў да гэтага, ды ўсіх тых каторыя ў нацыянальным пытаньні нясьведамы або абыяковыя пастарайцеся пераканаць іх, а гэтым самым дапаможаце іхнім дзецям выбраць правідловы жыцьцёвы шлях.

Кліўленд,
жнівень 1964г.

У В А Г А !                У В А Г А !

Ужо выйшла ў сьвет вельмі карысная і цікавая рэлігійная кніжка "Сьвяшчэнная Гісторыя Новага Запавету", фотокопію першае бачыны якое тут залучаем.

Кніжка апрацаваная яшчэ ў Вільні кандыдатам багаслоўя Сяргеям Паўловічам. Абыймае 152 бачыны тэксту ў беларускай мове. Прадназначана як падручнік для карыстаньня ў школах і самаадукацыі. Перавыдана фатаграфічным спосабам на першаякаснай паперы, друк выразны і чысты, разам з тэкстам зьмешчаны 24 рэлігійныя малюнкі і трапары дванадзесятых сьвятаў у перакладзе на беларускую мову.

Гэта першы друкаваны рэлігійна-ілюстраваны падручнік у беларускай мове, які толькі на эміграцыі змог пабачыць сьвет пасьля першага выданьня.

Пажаданым, каб гэтая каштоўная кніжка сталася настольнаю ў хаце кожнага беларуса і спрычынілася да набыцьця рэлігійнае веды, узмоцніла нацыянальную сьведамасьць каб рэлігійнае ўзгадаваньне беларускае моладзі на эміграцыі не залічвалася да другараднага абавязку.

Цана падручніка толькі 2.50 далары. Кошт перасылкі аплачвае набыўца. Замоўленьні сла...

Very Rev. A. Kryt
3517 W. 25th St.,
Cleveland 9, U.S.A.

# СЬВЯШЧЭННАЯ ГІСТОРЫЯ
# НОВАГА ЗАВЕТУ



З 24 малюнкамі ў тэксьце.

**Падручнік для беларускіх школаў і само**

---

Уламыў СЯРГЕЙ ПАЎЛОВІЧ, кандыдат багаслоўя.

Прагледжана Віленскай Камісіяй для разгляду беларускіх падручнікаў Закону Божага.

**Перавыдана Місійна - Асьветным Аддзелам БАПЦАРКВЫ коштам протаіерэя а. А. Крыта. Кліўленд 1964**

ВАРШАВА.
Друкарня Сынадальная.
1 9 3 6.